© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1254) ГОД XXV 9 САКАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Войнаўцы

Калі вам давядзецца трапіць у гэтае сяло, што сядзіць вуліцоўкай паміж двума пагоркамі ў 15 кіламетрах на ўсход ад Саколкі, па шашы Саколка-Бабікі, спрабуйце здабыць у ёй хоць адну-дзве легенды з яе мінулага. Мне, на жаль, не пашанцавала. Колькі я не выпытваў, амаль нічога не выціснуў. Калі не лічыць таго, што, быццам, некалі Войнаўцы былі надта людныя, прасціраліся „на дзве вярсце хата пры хаці". Прызнаюся: я аніяк не магу пазбыцца ўпэўненасці, што ў большасці нашых вёсак і мястэчак больш розных легенд, паданняў, сказаў, анекдотаў, чым жыве ў іх людзей! А тут нават такая спакусная на выдумку назва — Войнаўцы — і тую не спавіла болей ці меней красачная легенда. Можа яна і бытавала тут, але пайшла на вечны спачынак на тыя Могліцы, дзе ляжыць, як кажуць, амаль усё сяло, што гадоў таму са сто „выкаціла" нейкая пошасць. А ў тыя часы ў такую мясціну, у якой шалела „паветра", нікому нельга было ні зайсці, ні выйсці з яе — стаяўшыя навокал салдацкія варты цэльна клалі мёртвым кожнага, хто наблізіўся на стрэл. Сяло ўмірала, закопвала само сябе на пагорку „за крыжамі", ядналася перад абліччам смяротнай небяспекі ў адну сям'ю і шукала ратунку ў бездані павер'яў, прымхаў і ведзьмаванняў. Калі ўрэшце пошасць „заціхала" і аставалася пры жыцці некалькі чалавек, то да іх прыліпала на доўгія пакаленні мянушка „чумакоў". І такіх людзей іншыя чамусьці лічылі за надзеленых нейкімі таемнымі сіламі і пабойваліся.

У „вымарачным" сяле доўга яшчэ палохалі праезджых апусцелыя ды заняпаўшыя хаты, а на „палосках", што да іх належалі, кусцілася лаза і цягнуўся ўверх бярэзнік. Бывалі і ў Войнаўцах на іхніх 24 валоках-участках такія „пусткі", бо не заўсёды ўладальнікі з Адэльска, да маёмасцей якіх належала гэтая вёска, паспявалі засяліць іх новымі прыгоннымі. Відаць, сярод цяперашніх найдаўнейшых тутэйшых родаў, як Бакуновіч, Варановіч, Грыб, Зянцюк, Садоўскі, Стасевіч, Цярэшка, не многа захавалася тых, хто недзе ў XVI стагоддзі даваў пачатак Войнаўцам. Цікава, што навакольныя вёскі завуць іх чамусьці „арабамі". Ці гэтая мянушка мае нейкую сувязь з тутэйшым падвор'ем, у якім гадавалі коней арабскай крыві? Рэшткі фундаментаў вялікага будынка захаваліся на палетку Абарыска, але традыцыя кажа, што ў ім трымалі авечак.



*Гэта домік са смалістай сасніны ды з ажурнай рэззю на вуглах і вятроўках — твор невядомага „лесуна".*

Як-ніяк, але войнаўцы лічаць сябе праўдзівейшымі „запольнікамі" — гаспадарамі-земляробамі, што спаконвеку корпаюцца на сваіх палетках: Абрэзкі, Бурты, Да Крыжа, За Крыжам, Лес, Навіны, Надаткі, Палувалкі, Садзіба, Цвярце, Шулейкаўшчына. Праўда, на іх не надта было спорна ды ўмалотна, бо перад камасацыяй (праведзеная ў 1936 г.), напрыклад, паўчастковая гаспадарка (12 дзесяцін) была параскідана аж у 29 кавалачках! І ўсё ж войнаўцы жылі толькі з іх.

Усе працы ў полі, на лузе ці на падворку або ў хаце на працягу вякоў абраслі рознымі абрадамі і павер'ямі. Тэрмін сельскагаспадарчых работ часценька вызначаўся прыказкамі, як хоць бы такой, пра час сяўбы жыта: „Настаў Багач (Успенне, 28 жніўня) — кідай рагач (саху), бяры сявеньку і сей помаленьку". А калі ўжо пажылы войнавец сеяў на сваёй палосцы ды паблізу пачаў сеяць яго сусед, то першы адразу спыняў работу ды ўцякаў з поля, бо лічыў, што сусед яго „падсее", гэта значыць, увесь урод на будучы год пяройдзе на суседава поле, а ў яго астанецца

(Працяг на стар. 5)




Анатоль Фірсовіч, народжаны 11 лютага 1956 года ў Відаве, Бельскай гміны, абвінавачаны ў тым, што, хочучы сілаю накланіць свае ахвяры да распуснага чыну, 9.I.1971 г. задушыў Антаніну В. з Відава, дзяўчынку васьмі з палова год, 26.VIII.1976 г. — чатырнаццацігадовую Тарэсу А. з ваколіц Сямяціч і 1.XI.1977 г. дзевятнаццацігадовую Барбару І. з Бельска.

На след натрапілі пры апошнім злачынстве. Прывяла куртка, якую пакінуў ён на месцы забойства, і шнурок, пры дапамозе якога задушыў. Наконт гаспадара курткі сумненняў не было. Потым прызнаўся, што прыходзіў ён па яе яшчэ той страшнай ноччу, але перапалохаў крык варон, якія, пачуўшы нечыя крокі, узляцелі з дрэў. Глыбокая і падрабязная экспертыза ўстанавіла сходнасць рэштак шнурка ў кішэні курткі з заціснутым на шыі ахвяры. Адначасова на нагавіцах забойцы выкрылі валасінкі з вопраткі загінуўшай. Прызнаўся.

Пасля чарговых допытаў прызнаецца да наступнага злачынства — забойства Тарэсы А., а потым да забойства Антаніны В.

У час трывання суда не адказвае на ніводнае пытанне. Маўчыць, апусціўшы галаву. Зусім не глядзіць на людзей. Ці можа ў такім выпадку браць удзел у судовым разборы? Дзе прычына маўчання? Няма ніякіх прызнакаў псіхічнай хваробы ані іншых перашкод, якія б не дазвалялі прымаць удзел у судзе. Маўчанне — гэта прынятая абаронная пастава, выкліканая карнай сітуацыяй і рысамі ўласнай асабовасці — гучыць адказ лекарскай камісіі.

Злачынствы — гэта яму не навіна. Яшчэ калі вучыўся ў школе, у гадах 1969–1970 быў віноўнікам чатырох пакраж. Суд для непаўналетніх аддаў яго ў 1971 г. пад нагляд куратара. Але ў 1972 г. зноў пакража. Абакраў вучнёўскі кааператыў. Замкнулі ў папраўчым доме. — Грошы я меў. Дома матэрыяльнае становішча нядрэннае, але хацеў мець больш і таму краў, — выясняе.

Адчытваюць паказанні з допытаў. Гэтага цэлыя тамы.

Многія жыхары Відава запамяталі дзень 9.I.1971 г. Трэці дзень Каляд. У дамах урачысты настрой. Яшчэ святкуюць. Зімою цямнее хутка. Антаніна выйшла са школы разам з другімі. З Бельска да Відава, хаця яны і амаль спалучаныя, кавалак дарогі. Вядома: як дзеці гуляюць, усё цікавіць. Але Антаніна спяшалася. Не затрымоўвалася са сваімі школьнымі сябрамі. Бацькі нядаўна купілі тэлевізар. Малой — гэта цікава. Хацелася як найхутчэй быць дома. Але дамоў не прыйшла. Апошні

(Працяг на стар. 4)

## ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ



У пачатку бягучага года мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**— Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказваюць:

**Мгр інж. ЯЎГЕН САВІЦКІ,** начальнік горада і гміны ў Васількове:

— Будаўнічы поспех 50 спецыялістычных гаспадарак і 12 сялянскіх вытворчых калектываў. Усе яны закончылі пабудову інвентарскіх будынкаў (абораў, хлеўняў, куратнікаў і цяпліц) і пачалі весці ў шырокім маштабе жывёлагадоўлю. У мінулым годзе сялянскія вытворчыя калектывы і спецыялістычныя гаспадаркі прадалі дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў на суму 34 млн. злотых, гэта значыць 56% агульнай вартасці ўсіх прададзеных сельскагаспадарчых прадуктаў у гміне.

Сярод вытворчых калектываў сем займаецца гадоўляй курэй, тры — гадоўляй свіней і па адным — гадоўляй авечак ды вырошчваннем агародніны і пячурыц. У групе спецыялістычных гаспадарак найбольш, **25 гаспадарак,** гадуе малочнае і ўбойнае быдла і дзесяць гаспадарак гадуе свіней.

Трыццаць пяць гаспадароў купіла больш трохсот гектараў з дзяржаўнага фонду зямлі.

У 1979 годзе ў Васількове пачалі будаваць асяродак здароўя і рэстаран на 120 месц. Разгарнулася аднасямейнае будаўніцтва. Дваццаць жыхароў Васількоўскай гміны закончылі пабудову дамоў. Для ўсіх ахвотных выдзелілі яшчэ 150 будаўнічых пляцовак.

У тым жа годзе ў мястэчку пабудавалі 1500 м водаправоднай сеткі. Ваду з крана атрымалі жыхары дамоў па вуліцы Крынічнай, Новай і А. Міцкевіча (пры пабудове водаправода жыхары працавалі ў грамадскім пачыне і быў гэта адзін з каштоўнейшых пачынаў). Цяпер ваду ў хаце мае 98% усіх жыхароў Васількова.

**Інж. ЯН ТАПАЛЯНСКІ,** начальнік Нараўскай гміны:

— Вялікае зацікаўленне сялян механізацыяй. Лік трактараў ва ўладанні індывідуальных гаспадароў амаль падвоіўся. На курсы трактарыстаў запісалася звыш 200 асоб. Наша найбольшае дасягненне — гэта актыўнасць сялян у працы на ўласнай гаспадарцы і грамадскіх пачынах. Усе разумеюць патрэбу працаваць як найлепш. Працаваць, але і аблягчаць працу пры дапамозе машын. Гэтак жа неабходна ў сельскай гаспадарцы. У гэтым заключаецца прагрэс. Аснова развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі.

І яшчэ адно. Жыхары гміны Нараў ужо ў ліпені мінулага года паспяхова выканалі гадавы план зборкі грошай на Нацыянальны фонд аховы здароўя.

**ЧЭСЛАЎ БЕТКАЛ,** начальнік гміны ў Шудзялаве:

— Выкананне шматлікіх грамадскіх пачынаў на суму 2 млн. 310 тысяч злотых. Жыхары Пачапка і Маркавага Выгана пабудавалі 2,5-кіламетравы адрэзак жвіровай дарогі. Сяляне пабудавалі таксама 2-кіламетровы адрэзак дарогі са Слойкі ў Вярхлес.

Жыхары Шудзялава ў грамадскім пачыне пачалі пабудову стражацкай рамізы, у якой будзе адкрыты таксама гмінны асяродак культуры. Гэтая інвестыцыя акрэсліваецца сумай 5,6 млн. злотых.

Шудзялаўскі СКР (ён вядзе гаспадарку на 2,5 тыс. га) пачаў пабудову сваёй базы ў Слойцы. Будзе тут рамонтны цэх, склады, гаражы і адміністрацыйны будынак. У Шудзялаве СКР пабудуе жылы будынак для сваіх работнікаў.

Крынкаўскі ПГР у Шудзялаўскай гміне будуе аўчарню на 3200 месц і сушыльню збожжа. Закончэнне іх пабудовы прадбачваецца ў бягучым годзе. ПГР пабудуе ў Шудзялаве чатыры жылыя будынкі для сваіх работнікаў.

Падрыхтаваў **Янка Целушэцкі**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXIII**

„Казкі жыцця“ Коласа злучаюць у адну цэласць рэчаіснасць з фантазіяй, чалавека з прыродай, грамадскія падзеі з перажываннем адзінкі, гістарычную заканамернасць з выпадковасцю. „Казкі жыцця“ — гэта форма размовы пісьменніка са светам і самім сабою. У гэтых творах выявілася мара пісьменніка аб паляпшэнні свету, які здаваўся Коласу творам прыгожым і захапляючым, хаця і недасканалым у сваёй істоце. З веры ў магчымасць удасканалення свету вынікаў пастулатыўны характар „Казак жыцця“. Дыдактычны элемент у алегарычнай прозе Коласа выступае вельмі часта, аднак амаль ніколі не праяўляецца ў голай агітацыйнай форме. Маралізатарства Коласа заўсёды характарызуецца далікатнасцю, пазбаўлена яно шумных заклікаў, дэкларатыўнасці, слязлівых прэтэнзій.

Коласаўскі дыдактызм праяўляецца найчасцей у падтэкстах, а таксама ў фінальных пытаннях і канклюзіях, якія прымушаюць чытача да пошукаў самастойных адказаў.

**Прырода ў „Казках жыцця“.** Функцыя прыроды ў „Казках жыцця“ зусім іншая, чым функцыя прыроды ў таксама рамантычным творы — „Сымон-музыка“. У алегарычных навелах прырода з'яўляецца толькі сродкам выяўлення пэўных ідэй, постацей, характараў, а не канчатковай мэтай. У паэме „Сымон-музыка“, як вядома, прырода найчасцей з'яўляецца прадметам культу, захаплення і толькі зрэдку выкарыстоўваецца пісьменнікам як аб'ект, сімвалізуючы чалавечую істоту.

Пантэістычныя адносіны аўтара да прыроды праявіліся ў вершаваным уступе да „Казак жыцця“:

Не ў адной толькі нашай душы
Зерне ёсць хараства —
Аб ім казку складае ў цішы
Колас, ніва, трава.

Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць —
Аб ёй песню пяе салавей,
У ёй рэчка журчыць.

У той песні шырокай, як свет,
Чутны ветры і гром;
Дык прымі ж ты прывет —
Свет бязмежны — мой дом.

У гэтым вершы выявілася праграмная ідэя сяброўскага сужыцця прыроды і чалавека. Ідэя чалавека, які не імкнецца да падпарадкавання прыроды сваім эгаістычным інтарэсам. Пісьменнік выступіў тут з тэзісам аб тым, што прырода і чалавек гэта раўнапраўныя і раўнавартасныя партнёры.

Так сказана ў прыведзеным вершы, але ў тэкстах алегарычных апавяданняў маем дачыненне з іншай інтэрпрэтацыяй прыроды. У ім прырода гэта не партнёр, але прадлог, гэта свайго роду матэрыял, сродак, пры дапамозе якога пісьменнік паказвае чалавечыя характары, міжчалавечыя, міжкласавыя і міжнародныя ці нацыянальныя адносіны.




# КРУЦЯЦЬ!

Гутараць першакласнікі:

— Ведаеш, Пецька, хадзіць у школу добрая справа, — гаворыць Алік.

— Толькі мала нас вучаць, — адказвае Пецька. — Ужо столькі месяцаў у гэтай школе, а чаго нас навучылі? Трошачкі лічыць і некалькі літар. А столькі ўсяго цікавага навокал. Самі ж усяго зразумець аднак не зможам. Хоць бы ўчора вечарам. Бабуля гаворыць: Сямёнава Манька сына мае. Пэўна, не ведала, што я ў хаце. А мне, Пецька, цікава. Пытаю:

— Бабулька дарагая, адкуль яна гэтага сына ўзяла, скажы?

Бабуля глянула на ўсіх і тлумачыць:

— Сынка ёй бусел прынёс.

— Нешта ты, бабулька, круціш! — кажу ёй. — Дзе цяпер бусла ўзяць? Зіма ж на дварэ, буслы даўно адляцелі.

Тут умяшалася мама:

— Я табе, Алічак, растлумачу. Бабуля

(Працяг на стар. 4)

# Калядніkі

Звычай стары, як народная памяць. Рыхтаваліся да яго ад позняй восені, калі толькі пачынаўся пост, развучвалі песні, прывітанні і віншаванні, а найлепшыя вясковыя майстры рыхтавалі **„звязду“** — адмысловую, каляровую, са свечкай унутры, бляск якой прыдаваў мігатлівасці папяровым кветкам. Цяпер небяспечную свечку падмяніла электралямпачка з батарэйкай.

Бегалі ад акна да акна, ад дзвярэй да дзвярэй.

*Каляда, каляда...*
*Тут е дзеўка малада.*
*Гожа, чыста, як вада,*
*Каляда, каляда...*

Спеў пераплятаўся смехам і піскам, сур'ёзным песням аб цудоўнай Навіне, што здарылася ў Віфліеме, спадарожнічалі песні звычайныя, жартаўлівыя, на штодзённыя бытавыя тэмы, трапна падабраныя з жыцця канкрэтнага селяніна.



*Найпрыгажэйшую звязду прывезлі жыхары Трасцянкі.*

*Добры дзень вам, гаспадар,*
*Гэтай хаты ўладар!*
*З Богам хочам прывітаці*
*І калядку заспяваці.*
*Калі ласка, пачынаем,*
*Калі крыўда, уцякаем...*

Кожная вёска мела свой рэпертуар і сваіх спевакоў. Толькі найбольш агульнавядомыя песні, такія, для прыкладу, як *„Ноч свята, ноч ціха...“* або *„А ў Віфліеме, а ў Віфліеме...“* спяваліся аднолькава па ўсёй славяншчыне, як у праваслаўных, так і ў католікаў.



*Начальнік гміны ў Нарве Ян Тапалянскі ўручае ўзнагароду аднаму з удзельнікаў гэтай цікавай сустрэчы.*

Традыцыя пратрывала і да нашых дзён, хаця ужо толькі ў некаторых вёсках сустрэць можна калядніkаў. Моладзь занята навукай, дзяўчаты і жанчыны не збіраюцца ужо на пакудзелле, а старэйшыя не маюць часу, каб рыхтавацца да каляндавання. А шкада, бо можа загінуць штосьці цудоўнае, што радавала б чалавека.

Тым болей з удзячнасцю трэба вітаць задуму Гайнаўскага дома культуры, які супольна з Гмінным цэнтрам культуры ў Нарве наладжвалі своеасаблівы агляд калядных песень і абрадаў. Агляд адбыўся 20 студзеня, значыць на другі дзень Вадохрышча. Святліца Нараўскага ГОКа запоўнілася сялянамі з самой **Нарвы, з Трасцянкі, Васькоў, Ласінкі, Янава, Тыневіч і Макаўкі.** Сабраліся старыя і малыя, бабулькі і школьнікі. Размясціліся за супольным сталом, каб пакаштаваць традыцыйныя калядныя стравы, якія, дарэчы, яны самі з сабой прывезлі.

За ганаровым сталом заняла месца высокая камісія, са старшынёю Галоўнага праўлення БГКТ **Мікалаем Самоцікам.** Беларускае таварыства падрыхтавала на ўзнагароды грамафонныя пласцінкі з народнымі беларускімі песнямі ў выкананні **Міхася Забэйды-Суміцкага** і даведнікі на польскай мове пра нашу беларускую арганізацыю.

Варта пашырыць каштоўнае мерапрыемства і падобны **агляд наладжваць кожны год.** У гэтым аглядзе маглі б узяць удзел народныя спевакі з усяго Беластоцкага ваяводства. Толькі каб ўзнагароды не былі сімвалічныя, як тыя, што ў Нарве! Начальнік Нараўскай гміны **Ян Тапалянскі** гаварыў мне, што не мелі яны грошай на ўзнагароды. Веру яму, але ведаю таксама, што калі ўлады захочуць пашукаць, дык гэтых некалькі тысяч злотых напэўна знойдзецца.

Удзельнікі каляндавання прывезлі з сабой традыцыйныя звёзды. Узорыстыя, шматкаляровыя, адмыслова абклееныя паперай, абвешаныя фрэндзлямі, з іконамі ў сярэдзіне і без ікон, падвойныя і аднаярусныя. Проста аж сэрца баліць на думку, што гэтыя шэдэўры народнага мастацтва сяляне закінуць некуды ў каморы, або на гары сваёй хаты і будуць яны там стаяць, аж да наступных каляд, калі раней мышы да іх не дабяруцца. Іх месца ў музеі.

Камісія з дапамогай публікі прызнала, што найпрыгажэйшую звязду прывезлі жыхары Трасцянкі, сярод якіх голасам і адвагай вылучалася таленавітая спявачка **Анна Стахвіюк.** Трасцянскія жанчыны разам з жыхарамі Нарвы заваявалі першае месца таксама па спевах. Другім месцам падзяліліся прадстаўнікі Янова, Ласінкі і Тыневіч. Аглядам кіраваў дырэктар Гайнаўскага дома культуры, а ў арганізацыі яму шчыра дапамагала **Ніна Якубоўская** — кіраўнік гміннага цэнтра ў Нарве.

Падобныя агляды калісьці ўжо наладжваў Ваяводскі дом культуры і жыхары Ласінкі, для прыкладу, заваявалі аднойчы там першае месца. Было гэта аднак даўнавата. Дзякуем тады дзячам культуры з Нарвы і Гайнаўкі, што прыпомнілі нам гэтае каштоўнае мерапрыемства.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Апавядае Анна Стахвіюк з Трасцянкі.*

Дэкада вясковай культуры — адзін з відаў узаемасупрацоўніцтва горада і вёскі. Абмен дасягненняў у працы ды творчасці, супольныя сустрэчы, размовы набліжаюць і родняць культуру двух асяроддзяў. Рабочы знаёміцца з жыццём вёскі, селянін — з гарадскім бытам. Наладжваецца дружба паміж прамысловым прадпрыемствам і сельскай гаспадаркай.

І тры гады таму назад гэтакая дружба нарадзілася паміж Мілейчыцкай гмінай і беластоцкай „Пасмантай“. Першая ўступная сустрэча адбылася ў гміне. У 1977 годзе прадстаўнікі Прадпрыемства галуннай і пазументнай вытворчасці „Пасманта“ ў Беластоку наведалі Мілейчыцы. Пасля размоў, якія леглі ў аснову пазнейшага супрацоўніцтва, прыехаўшыя запрасілі іх да сябе. Доўга і дакладна рыхтавалася гміна да гэтага першага гасціннага візіта. Хацелі яны, каб як мага найбольш поўна і вобразна паказаць традыцыю і культуру сваёй ваколіцы. І ў святліцы вышэй адзначанага прадпрыемства ўладзілі яны выставу

# ТРЫ ГАДЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА

народнага ткацтва, вышыўкі, гафту, пісанак на яйках. На працягу двух тыдняў працаўнікі „Пасманты“ маглі глядзець плады рук народных умельцаў. А ў сакавіку таго ж года самадзейнікі з Рагачоў прыехалі з пастаноўкай п'есы Янкі Купалы „Паўлінка“. Перадавыя гаспадары, якія прымалі ўдзел у гэтай сустрэчы, змаглі пазнаёміцца з прадукцыйным працэсам прадпрыемства.

У сваю чаргу лепшыя працаўнікі „Пасманты“ наведалі гміну ў Мілейчыцах. Прынялі яны ўдзел у святкаванні Дня Перамогі. Пазнаёміліся з працай ды дасягненнямі гміны і прапанавалі сваю дапамогу пры зборцы ўраджаю.

У 1978 годзе, па запрашэнню, Мілейчыцы ізноў арганізавалі выстаўку народнага мастацтва, а таксама далі канцэрт, у якім выступілі капелы і вясковыя спевакі. А ў сябе наладзілі кулік. Паказалі гасцям сваю гміну, перадавыя гаспадаркі, а таксама сучасную тучарню, на 800 штук свіней, у Мядзвежыках.

У бягучым годзе гэтакая сустрэча адбылася 9 лютага ў Беластоку. На гэты раз прыехаўшыя пазнаёміліся з працай і вытворчасцю прадпрыемства „Біруна“ і паглядзелі горад. У госці ў Мілейчыцы запрасілі на Дзень Перамогі. Прымуць яны ўдзел ва ўручэнні сцяга мясцовай пажарнай камандзе, у функцыю якога і дырэкцыя прадпрыемства абяцала ўнесці свой уклад.

— Што даюць гэтакія сустрэчы? — звяртаемся да начальніка гміны Мікалая Бартнічука.

— Многае. Несумненна, многае. Перш за ўсё — гэта набліжэнне селяніна да рабочага, пазнаванне розных праблем, дзвюх розных прац, — адказвае.

У 1979/1980 г. „Пасманта“ прыняла актыўны ўдзел у грамадска-палітычным абучэнні жанчын. Падбірала адпаведных лектараў. А зараз вырашылі яны наладзіць для ўдзельнікаў абучэння экскурсію. Даюць свой аўтобус.

Супрацоўніцтва паміж Мілейчыцкай гмінай і „Пасмантай“ разлічана і на далейшыя гады. Падрыхтавана ўжо дэкларацыя прадаўжэння гэтакай дружбы. Як і дагэтуль, будзе яна заключацца ў ідэйна-палітычнай ды асветна-культурнай дзейнасці, грамадскіх пачынах, супольных адпачынках, узаемадапамозе ды святкаваннях традыцыйных свят, такіх як Дзень тэкстыльшчыка — у Беластоку і Дзень Перамогі — у Мілейчыцах.

**М. Шаховіч.**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

ўсё прыкрыў мяшкамі, што недзе там валяліся ды прысыпаў зямлёю і галінамі.

Бацькі доўга чакалі Тарэсу, але дачка не прыходзіла. І больш ужо ніколі не прыйшла.

— Каб ведалі, дык выйшлі б. Гэта ж амаль пад самым домам. А сабачка, яе сябра і выхаванак, так як бы нешта прадчуваў. Стаяў цэлы час і выў у бок Сямяціч, — гаворыць праз слёзы маці.

Быў якраз дзень памёршых 1977 года. Сумны дзень, дзень, калі ўспамінаюць сваіх блізкіх, якія назаўсёды адыйшлі. У тэлевізары паказвалі „Запамятай сваё імя“ — фільм пра маці і сына, якіх разлучыла вайна.

Барбара І. была студэнткай першага курса Люблінскага універсітэта. Было ёй дзевятнаццаць год. Правёўшы вольныя дні дома з сям'ёй, рыхтавалася да ад'езду ў Люблін. Цягнік адыходзіў амаль апоўначы.

— Заграла, — памятаю, на губным гармоніку нейкую сумную мелодыю, прачытала мне верш Ясеніна „Не жалею, не зову, не плачу...“ — гаворыць маці і паехалі на машыне з братам за білетам на вакзал.

Купілі білет, але нешта здарылася з машынай. Часу заставалася мала. Пакуль брат шукаў прычыну ў машыне, сястра выграшыла ісці пехатой. Хутка брат наладзіў машыну, але сястры на дарозе не сустрэў. Не было яе і дома. У хаце трывога. Пазванілі ў бальніцу, думаючы, што можа здарыўся нейкі выпадак. Не было. За поўнач паведамілі міліцыі. Распачаліся пошукі. Знайшлі мёртвую, з заціснутым на шыі шнурком ад снопавязалкі, у некалькіх метрах ад мосту на рэчцы Белай, што перасякае вуліцу. Забойцу знайшлі на раніцу.

Кіруючыся тым самым, што і пры забойстве Тарэсы А., схаваўся пад мастом. Чакаў, калі будзе праходзіць нейкая жанчына. Шнурок узяў з той думкай, каб заціснуць, калі будзе бараніцца. Праходзіла многа, але то ішлі парамі, то нехта яшчэ быў на вуліцы. Недзе каля поўначы заўважыў, што ў яго бок хутка набліжаецца нейкая дзяўчына. Навокал пуста. Вярнуўся пад мост. Зняў куртку, каб не перашкаджала, узяў падрыхтаваны шнурок і выйшаў на дарогу. З адлегласці трох метраў пазнаў, што гэта Барбара І. Разам вучыліся. Запрапанаваў палавыя зносіны. Не згадзілася. Тады заціснуў рукі на яе шыі і сілаю пацягнуў з вуліцы. Тут вуліца пустая. Вялікая прагаліна. Ні з аднаго, ні з другога боку няма дамоў. Пачала крычаць, а ён штораз мацней заціскаў на шыі рукі. Зыходзячы з пабочыны за нешта зачапіўся і ўпалі. Аблюзаваліся рукі. Закрычала. Тады заткаў палою яе плашча рот. Падняў яе галаву і закінуў шнурок ды моцна завязаў на два плоскія вузлы. Варушылася штораз слабей. Потым перастала. Зняў з яе рукі гадзіннік, забраў кашалёк ды ўцёк, пакідаючы сваю куртку.

— Глядзець не магу на гэты цягнік, што ў Люблін. Так і ціснуцца слёзы, — гаворыць маці Барбары.

* ✲ *

У студзені судовы разбор злачынстваў Анатоля Фірсовіча закончыўся. Выносячы прыгавор, суд узяў пад увагу апінію лекараў-псіхіятраў, якія выявілі, што ў час усіх трох даказаных яму забойстваў абвінавачаны ў значнай ступені меў абмежаваную магчымасць разумення сваіх учынкаў і кіравання сваімі ўчынкамі. Прысудзілі на дваццаць пяць год турмы.

**М. Сакоўскі**




# БЯССОННІЦА

Маю ацэнку верша А. Свіська Дваракоўскі назваў абсурднай. Але, разабраўшыся, абсурд у тваіх доказах. Бо кажаш: „Калі чалавек не можа спаць, калі глядзіць у неба, як бы там шукаў таямніцы свайго (людскога) існавання, калі хоча пазнаць сусвет, калі яго хвалюе думка штодзённага жыцця“... Хопіць. Давай пройдземся са споду ўверх.

„Калі яго хвалюе думка штодзённага жыцця“, то глядзі не глядзі, браток, у ясныя зоры, нічагусенькі там не ўгледзіш (таго, што патрэбнае дзеля штодзённага жыцця). Так, так. „Хоча пазнаць сусвет“. То трэба вывучаць фізіку, хімію, астраномію і многа іншых навук. Назіранне паэтам зорнага неба не дасць новых ведаў, нават калі яго весці і калектыўна, усім аб'яднаннем. На мой мужыцкі розум, як сусвет бясконцы ў прасторы і часе, так бясконцым ёсць і яго пазнанне. Пусты занятак глядзець у зорнае неба з мэтай пазнання сусвету, як і пошукаў таямніцы свайго існавання.

А загарэўся сыр-бор па прычыне бяссонніцы паэта. Калі чалавек не можа спаць, то ж не канечне глядзець, вырачыўшы вочы, у неба, бы ў капейку. Бяссонніца рэч паскудная. Папамучыла яна і мяне. А ў найстрашнейшай форме чатырнаццаць год таму, калі памёр мой малодшы сын. Было яму дваццаць адзін год, працаваў на Шлёнску шахцёрам, там і захварэў на апендыцыт. Пасля лёгкай і паспяховай аперацыі, не дагледзела яго маладзенькая апякунка. Пакінула, хворага, і паўгадзіны забаўлялася з каханым. А хворага мучыла прага. Звалокся ён з ложка, знайшоў ваду і ўталіў смагу. Неадкладная аперацыя нічога ўжо не дала. Памёр мой сын. Што я, бацька, не мог спаць, ніхто не здзівіцца. То ж не „стрэмка“ А. Свіська. То бяда. Каб я, ідучы за паэтам, у бяссонныя ночы толькі глядзеў у неба, як бач пайшоў бы за сынам на той свет. Але я не паэт. Я рэаліст, чалавек. А калі я хачу захаваць званне чалавека, не павінен быць шляпай. Жыццё даецца раз. Трэба ім даражыць і выносіць усе нязгоды і няшчасці з належным чалавеку стаіцызмам. Да гэтага я дайшоў ужо даўно, перанёсшы беспрасветнае дзяцінства, перахварэўшы хрупай, дыфтэрытам, шкарлятынай. Не забуду да скону галадоўку 1919-1921 гадоў на Ніжнім Паволжы. Перанёс тады двайны тыф: сыпны і зваротны. Два разы тапіўся. Папляваў мулам — за паўжыцця не наплюеш. Бывшы камсамольцам, з вінтоўкай трапіў у лапы белякоў. Давялося глядзець смерці ў вочы. Страшна. Але і на гэты раз абмінула яна мяне. Жыві далей, Міхасёк. Не шкада. Зведай жыцця ўсебаковыя выкрутасы, блытаніну скромных пацех, сляпыя закавулкі цярністага шляху, скаштуй сем бед на адзін абед, а там і выракайся.

Выклаў я сваю біяграфію не дзеля суб'ектыўнасці, гэта зусім нецікава. Як жывы сведак хацеў паказаць голую праўду жыцця, параўнаць сённяшні дзень з мінулым.

Бежанства закінула нас у сцяпное сяло. 8 тысяч сялян. Гміна, пошта, тры крамы, царква, чатырохкласная школа. Усё. Навучанне дзяцей неабавязковае. Ды і не магло быць абавязковым. Галеча прымушала іншых бацькоў пасылаць басаногіх абарванцаў па здабычу жабрачага хлеба: ад хаты да хаты — „радзі Хрыста“. Аднак народ разумеў значэнне навукі, і першакласнікаў заўсёды была поўная школа. У другім класе таксама было дастаткова. У трэці хадзіла ўжо трэцяя частка, а ў чацвёрты — усяго пяць-дзесяць вучняў. На далейшую навуку ў горад (100 км) пасылалі сваіх дзяцей толькі свяшчэннікі, начальства і крамары. Нават багатыя гаспадары абмяжоўвалі адукацыю сваіх дзяцей чатырохкласнымі ведамі. Самі непісьменныя, лічылі, што калі сын апанаваў чытанне, пісанне і чатыры дзеянні арыфметыкі, дык чаго ж больш і трэба.

Над здароўем варту неслі некалькі знахароў і столькі ж шаптух. Быў і кастапраў, дзякуючы якому і ў мяне адно калена грубейшае ад нарасці. Апрача вылічанага лекарскага персаналу, у гэтым васьмітысячным сяле была яшчэ і бальніца на чатыры ложкі пад началам фельчара і фельчарыцы, якія пад сабой мелі адну сястрыцу і „кучара“. Аптэчны запас абмяжоўваўся толькі сродкамі супраць воспы. Дыфтэрыт

(Працяг на стар. 7)

ЗАПІСКІ НАТУРАЛІСТА




Студзень 1979 г. Беласточчына. Завеяла, занясло глыбокім снегам усё: дарогі, палі, лясныя сцяжынкі вегетарыянцаў — сарнаў, зайцаў, дзікаў... Мароз траскучы, цяжкі час для ўсіх, асабліва для дзікай жывёлы. Драпежнікі: воўк, лісіца, рысь бязлітасна раздзіраюць аслабленых раслінажэрцаў.

— Куды пойдзе сёння плуг „ЗІЛ“? — запытаўся я ў транспартным бюро.

— Ды вам куды, інжынер? Хтосьці мяне пазнаў па голасе. Я ўзрадаваўся.

— Цікавіць мяне дарога Храбалы-Плюцічы-Страбля.

— Туды і пойдзе цяжкі „ЗІЛ“ з плугам.

Вось я на дарозе, якую асфальтавалі па майму праекту ў 1973 г. Нічога не відаць, усюды снег, снег... Ужо праехалі меліярацыйны роў, стары храбалоўскі лес. Далей пайшоў 27-гадовы сасновы маладняк сяла Плюцічы. Мой лес. Мы разам з гр. Янкам Леўчукам з Плюцічаў арганізавалі яго пасадку. 350 га лятучага пяску пакрыта прыгожымі дрэўцамі: сосны ды бярозы. Рай для дзікіх звяроў, дабрадзейства людзям.

Іду, капаюся ў глыбокім снезе. Сцежкі звяроў завеяны, слабавата відаць іх сляды. Сэрца замірае: а раптам знянацку сустрэну якога-небудзь звяра ў перадсмяротных пакутлівых схватках, у драцяной пятлі браканьера. Жудасная гэта карціна. О, каб гэта ўбачыў суддзя ці прадстаўнік карнай калегіі! Запэўніваю вас, што іх прыгаворы былі б вышэй у двацтры разы. Больш браканьер не застаўляў бы пятлю.

Сляды глыбокія — ходы сарнаў; паверхневыя — зайцаў ды пайшлі ў абход пералеска.

Нешта цямнее... Ямка ў снягу. Сэрца часцей застукала ў грудзях... Набліжаюся... Ляжыць заяц. Пятля схапіла яго вельмі няўдала — упоперак. Ранкі ад дрота, снег прыбіты да зямлі... доўга пакутваў.

Іду далей. Кідаю свой развітальны позірк на няшчасную жывёлу. У руцэ — 11 петляў з тонкага дроту — страшнай прылады катавання.

Ды ў галаву ўсё лезуць цяжкія ўспаміны. Сярэдзіна студзеня, час падзей гістарычнага 1945 года. Снег, мароз — безупынны гул ды траскатня. Памятныя словы ген. Г. Гардзілоўскага: „Вы асабіста адказваеце за ўдачны пераход праз балота цяжкіх „Т-34“. На вас абапіраецца інжынерная ГГМР“. Простыя словы, адказная работа.

Працяжны сігнал — умоўны знак. Прыехаў „ЗІЛ“. Капаючыся ў снезе, дабіраюся да машыны.

Плуг са скрыгатам сунецца нізка над палатном дарогі. Шафёр не мае часу на лішнія размовы.

Мае думкі перанесліся да студзеня 1969 года. Дарожная лабараторыя ў Гайнаўцы. Гэтакі ж глыбокі снег ды мароз. Цягнікі дрэнна ходзяць: застаюся начаваць у лабараторыі.

Надосвітку стук у дзверы.

— Што здарылася?!

— Уставайце, важная справа! — пачуў знаёмы голас вартаўніка Язэпа Шведа.

— Зараз, — адказаў я і хутка, па-вайсковаму сабраўся.

— Пойдзем са мною, убачыце дзіва... магчыма нідзе не бывалае...

Пайшлі. Гаспадарка гр. Шведа. За хлявом сабачая будка.

— Падрыхтуйце фанарык... няя, няя, няя...

— І з будкі выскачыў стары сабака, а за ім... заяц, самы сапраўдны — худы, страшна знясілены. Ён пацёгся ў малады сад.

Сапраўды цуд прыроды.

— А вы ведаеце, што нават елі разам з аднаго карытца, — дадаў гаспадар.

Ды зноў жа цяжкія думкі. Ад іхнагеалагічна-выратавальнай ролі гліны да танкаў ды снарадаў ворага ў 1941-45 г.г. Глінай я выратаваў многа людзей ад апёкаў, гліна — носьбітка плённасці глебы. Паклон табе, спадарожніца наша!

Праневічы. Ужо хутка Бельск. Канец кароткага падарожжа дарогаю, ды доўгага думкамі.

**Б. Ф. Рудкоўскін**




можна было б пасмяяцца з гэтага своеасаблівага відовішча: на матацыкле імчыцца ўзброены немец, а перад сабой гоніць босага мужыка ў адной кашулі з дамотканага палатна. Па абодвух баках вуліцы з трэскам валяцца дагарэўшыя дамы, густымі снапамі ляцяць іскры, паветра перапоўнена пахам пажараў... А ён, селянін, бяжыць, задыхаўшыся, і нават поту, што вочы пякуча залівае, няма як яму абцерці, бо рукі над галавой...

Выскачылі за вёску — у той бок, дзе слохаўскія хутары, дзе вёска Клекатова, дзе праз узгоркі шаша накіроўваецца ў Драгічын і далей за Буг.

Селянін бяжыць і думае: *„Як уцячы? Можа нагой у каляско матацыкла — і самому ходу!“*

Крадком азіраецца ў адзін бок, у другі: направа і налева — усюды немцы. Як мухі абселі шашу, размясціліся на полі, адпачываюць, загараюць, спакойныя, вясёлыя... Іх гергатня запаўняе ўсё наваколле і разам з пылам узнімаецца аж пад неба.

Куды ж тут уцякаць?

Некаторыя з іх, з гэтых немцаў, паўставалі з зямлі і з зацікаўленнем ды рогатам узіраюцца ў гэтага чалавека, што бяжыць перад матацыклам. Хтосьці падняў аўтамат і нацэліўся ў Панасюка. Можа падумаў, што матацыкліст не ў сілах яго прыкончыць, бо рукі мае занятыя, дык трэба сябру дапамагчы! Ма-

(Працяг на стар. 6)

# Войнаўцы

(Працяг са стар. 1)

адна мятліца. Такіх павер'яў тут мноства. Цяпер яны ўсяго толькі ўспаміны пра дзівосную даўнасць. Але ўмелі калісьці, патрапяць і сёння войнаўцы так пахадзіць каля сваіх палеткаў, каб на іх шумела „жыта, бы тросць“.

Калі не было на соль ды нафту, збіралі на сваіх загонах вазок-жалязняк камення ды цягнуліся прадаваць яго за два злотых у Саколку, на станцыю. Тут залягаюць вялікія паклады гліны высокай якасці. Да вайны была нават цагельня, у якой рабочыя з Шудзялава выпальвалі дасканалую цэглу на печы. Адзін з войнаўцаў займаўся таксама ганчарствам. Аднойчы ў трыццатыя гады завітаў сюды дзеяч Саюза вясковай моладзі „Віці“ і склікаў сход. Дзяўчаты і хлопцы пыталіся ў яго толькі пра адно: дзе дастаць работу? Што ж ён мог сказаць ім на гэта?.. Маладыя часцей за ўсё вандравалі па шашах усходняй Беласточчыны біць каменне. Многія ў пошуках кавалка хлеба падаліся ў Амерыку. Той ды сёй спрабаваў падзарабіць вывозкай драўніны („клетак“) з лесу ці капаннем карпіны на вырубах. Такая работа траплялася рэдка, бо яе пільнавалі „лесуны“ з вёсак, што бліжэй „Вялікага“ лесу, гэта значыць — рэштак колішняй Адэльскай пушчы.

Іменна за „лесунамі“ хадзіла слава адмысловых цесляроў і сталяроў. Калі нехта з войнаўцаў за доўгія гады адымання сабе ад вуснаў нават самага неабходнага сабраўся нарэшце згарудаваць хату, то падаваўся яе „абсталёўваць“ толькі ў „лясунскую“ вёску. „Гадзіліся“ не на грошы, а на бочкі, чвэрці ці пуды збожжа. Таргаваліся доўга, абмяркоўвалі кожную падрабязнасць. І праз год-два вырастаў на падворку „запольніка“-войнаўца домік, бы званок, — выцацканы ўлюбёнай у дрэва, звітнай рукой „лесуна“. Хоць і дзіваваўся „запольнік“ майстэрству „лясунскаму“, але ўсё ж лічыў яго бяднейшым ад сябе.

Усё гэта адышло ў мінулае. Сёння войнаўцы ставяць мураванкі з сіпарэксу такія ж, як у Саколцы ці Беластоку. Не „душацца“, як некалі, за купляй скібы зямлі. Жывуць добра. І ўсё ж вёска з кожным годам радзее і пусцее. Моладзь, атрымаўшы прафесію будаўніка, маляра, шафёра, краўчыхі ці афіцыянткі, развітваецца са сваім родным сялом, падаецца ў „свет“, які пачынаецца ўжо за „крыжамі“ ды „Моглiцамі“ і вабіць нечым незвычайным, „мястовым“...

**Мікалай Гайдук**

Фота аўтара



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




Дарагое Сэрцайка, я замужняя, маю дачушку. Нядаўна атрымалі мы добрую кватэру. Нібыта ўсё як трэба, але ў нашай сям'і нешта псуецца. Не ведаю чаму, але муж мой стаў іншы, як быў кавалерам. Калі хадзіў да мяне, быў такі мілы, заўсёды задаволены, а цяпер не такі. Яшчэ спачатку, пакуль не было дзіцяці і я працавала, не бачыла гэтай змены. Але і не праз дзіцё гэта, бо дачушку ён вельмі любіць, толькі вось да мяне інакш адносіцца. А чаго яму бракуе? Прыйдзе дадому на ўсё гатовае. Абед я тут жа на стол стаўлю, наесца, з малой пабавіцца, а тады газету ў рукі, ды ляжыць сабе на канапе. І вось яшчэ незадаволены бывае, нахмураны. А я і сесці часу не маю. На мне ж усе абавязкі: гатаванне, пасуда, сцірка, дзіця, ну і ўсё іншае. А ён яшчэ скажа, што я занядбаная. Выгляд зусім не той, што калісьці. А калі я маю дбаць пра сябе? Добра, як памыцца паспею. А пра маляванне ды дбайную прычоску я ўжо і забыла. Ужо часам дык маю досыць усяго гэтага. Пайду, думаю, на работу, абы з дому. Але ж дзіця. І ўжо задумоўваюся, ці не аддаць бы дачушку ў прадшколле, ёй лепей там тры гадзікі споўніцца, і пайсці на работу. Можа лепш было б. Але шкада дзіцяці. Яна ж заўсёды са мной. А там чужыя людзі ды дзеці. Муж за тым, каб аддаць, а я хвалююся. І таму пастанавіла параіцца з табой, Сэрцайка.

Эля з Беластока

Эля! Як толькі ёсць магчымасць аддаць дзіця ў прадшколле, дык не вагайся. Гэта якраз карысна для дзіцяці. У прадшколлі дзеці вучацца жыць у калектыве, пазнаюць розныя гульні і забавы. Дзіця цэлы дзень прабывае пад апекай вопытных выхавацеляў. Ну, і ты пойдзеш на працу, адарвешся ад гэтай бясконцай хатняй таўкатні. Тады і знойдзеш час, каб задбаць пра сябе. На работу ж абы-як не пойдзеш. Дый у хаце жанчына павінна акуратна выглядаць. А мужа да работы гані. Дамашнія абавязкі трэба дзяліць папалам. Думаю, выйдзе гэта на карысць вашай сям'і.

Сэрцайка







## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Росстілается, розвывается в новом горыдці зелье,*
*в новом горыдці зелье.*
*Начынается, розвывается ў Валюні вэселье,*
*і ў Валюні вэселье.*
*Бог начынае, Бог помагае, батэнько докладае,*
*батэнько докладае.*
*А чого нэма, чого нэ будэ — батэнько роздобудэ,*
*батэнько роздобудэ.*

Ад Яўгеніі Тышук, год 50, вёска Вілінава, гм. Мельнік, запісаў у лістападзе 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.

Дарагі Астроне! Першы мой сон, што быў змешчаны ў „Ніве“ № 28 аб нашым падарожжы ў рай, як у руку ўдаўся... „Так, не лёгкая будзе ваша дарога ў рай...“ Ну, але ўсё ж мы з ёю пажаніліся. І вось надоечы сніцца мне зноў нейкі дзіўны сон. Нібы я быў курыцай і толькі сеў на насест




знесці яйка, а тут гаспадыня вынесла прыпол пшаніцы, пасыпала і кліча: ціп, ціп, ціп. Важаты з сваім „гарэмам“, г. зн. Певень, пабеглі дзёбаць, а мне, як на злосць, не вылазіць яйка, бо як даўжэй пасяджу ў купале, то нічога не астанецца, усе зярняты паз'ядаюць мае таваркі. Я то пнуся, пнуся, яйка лезе і вылезла. А жонка — грымака мне ў спіну! Ах ты, сякі-такі, што ж гэта ты нарабіў у ложак?! А ў маленькі пакоік не мог выйсці?!

Кастусь з Аўстраліі

**Кастусь з Аўстраліі!** А ты няўважліва чытаеш „Ніву“. Я ўжо адказваў аднаму чытачу на падобны сон. І ён, як ты, атрымаў грымакі ў плечы ад жонкі (уяві сабе, амаль за тое ж самае, яму толькі снілася, не што ён знёс яйцо, а што сядзеў у прыбіральні!) Ва ўзнагароду за тое, што жывеш ты ад нас далёка, але пра „Ніву“ памятаеш, магу табе яшчэ дадаць, што нейкае багацце, якое мог бы ты атрымаць без асаблівага высілку, пройдзе ў цябе каля носа, а тое, што нажывеш, прыдзецца здабыць табе цяжкай і мазольнай працай.

**Астрон**




## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У час працы на дзяржаўным прадпрыемстве О. быў пакалечаны, у выніку чаго быў прызнаны інвалідам III групы. На прадпрыемстве яму сказалі, што аднаразовай кампенсацыі яму не выплацяць, бо выпадак здарыўся з яго віны, паколькі ён не праявіў належнай асцярожнасці, а калі нават яму і прызнаецца кампенсацыя, то значна меншая ад прадбачанай законам. Ці прыслугоўвае О. кампенсацыя, калі б было даказана, што ён пацярпеў у выніку незахавання адпаведнай асцярожнасці?

АДКАЗ: Аднаразовая кампенсацыя па 500 зл. за кожны працэнт сталай або доўгатэрміновай утраты здароўя прыслугоўвае кожнаму працаўніку, які атрымаў шкоду ў выніку няшчаснага выпадку ў часе працы, або выконваючы загад свайго начальніка. Па закону кампенсацыя не прыслугоўвае толькі тады, калі б прадпрыемства даказала, што выключнай прычынай выпадку было нарушэнне працаўніком правіл, якія ўстаноўлены для аховы жыцця і здароўя, выклікаваны быў ім наўмысна або дзякуючы яркаму нядбальству. Яна не прыслугоўвае таксама, калі хтось, будучы нецвярозым, у значнай ступені спрыяў выпадку. Калі выпадак здарыўся толькі ў выніку неасцярожнасці, няма асноў пазбаўляць пацярпеўшага кампенсацыі. Абавязваючы закон аб належнасцях за выпадкі ў часе працы і прафесіянальныя захворванні з 12.VI.1975 г. не прадбачаць таксама магчымасці абніжэння кампенсацыі, калі пакрыўджаны сам у нейкай ступені дапамог выпадку.

## Куток практычных ведаў




### СЕЛЯДЗЕЦ ПА-БАЛАТОНСКУ

Калі хтосьці не знойдзе селядцоў, то можа ўзяць салоныя сардынкі. Вымачыць іх, ачысціць, зняць скуру і падзяліць на філе. Маянез змяшаць са збітай смятанай, віном, дадаць цукар, лімонны сок і зялёны гарошак. Селядцовае філе заліць падрыхтаваным соусам, упрыгожыць зялёным гарошкам і укропам.

На кілаграм салоных селядцоў ці сардынак узяць 200 г маянезу, 150 г зялёнага гарошку, па 70 г белага віна і смятаны.

### СЕЛЯДЦЫ ПА-ЛАВІЦКУ

На кілаграм марынаваных селядцоў бярэм 300 г маянезу, 300 г цыбулі, 300 г морквы і 200 г кансервіраваных ці кіслых агуркоў.

З марынаваных селядцоў ці сардынак зрабіць філе, нарэзаць кавалкамі велічынёю каля 3 см. Цыбулю і моркву абабраць, нарэзаць скрылёчкамі, абдаць кіпенем і замарынаваць на 24 гадзіны. Парэзаныя селядцы класці на талерку, перакладаючы марынаванай гароднінай і скрылёчкамі агуркоў. Усё заліць маянезам і ўпрыгожыць зялёнай пятрушкай.

### САЛАТ ПА-НЕАПАЛЬСКУ

На салату бярэм 2 баначкі кансервіраваных селядцоў у таматным соусе, 300 г макарону, 200 г кіслых агуркоў, 30 г памідорнага канцэнтрату, 100 г маянезу.

Зварыць макарон, пераліць яго халоднай вадой і асушыць. Пасячы зялёную пятрушку, змяшаць макарон з кансервамі, пятрушкай, нарэзанымі агуркамі і таматным канцэнтратам. Палажыць салат у салатніцу і заліць маянезам. Упрыгожыць зялёнай пятрушкай.

### СЕЛЯДЗЕЦ З ЯЕЧКАМ

На кілаграм салоных селядцоў трэба ўзяць 200 г маянезу, 2 яечкі, 100 г смятаны, 100 г зялёнай цыбулькі.

Селядцы вымачыць, зняць скурку і зрабіць філе. Падрыхтаваць соус, дадаючы да маянезу смятану, муштарду, пасечаную зялёную цыбульку і дробна парэзаныя крутыя яечкі. Скручваць філе селядца, класці на талерку, паліць соусам і ўпрыгожыць зялёнай пятрушкай.

### „КОРКІ“ З САРДЫНАК

Марынаваныя сардынкі ачысціць, зрабіць філе і скруціць яго ў „коркі“. Цыбулю абабраць і дробна пасячы. Абабраць яблыкі і парэзаць дробна. Паложаныя на талерку „коркі“ пасыпаць яблыкамі, змешанымі з цыбуляй. Пасыпаць перцам і паліць алеем. Упрыгожыць зялёнай пятрушкай.

На кілаграм марынаваных сардынак трэба ўзяць 300 г цыбулі, 200 г яблыкаў і 150 г алею.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 5)




тацыкліст, аднак, рашуча запратэставаў, бо гэта ж ён злавіў *„рускага камуніста“*, якога трэба абавязкова даставіць у штаб...

— Кому жыті суджэно, — уздыхнула ў гэты момант цётка Марыя, жонка дзядзькі Аляксандра, — той і з войны цілы вэрнэця, а кому жытья кунец назначаны, того смэрть і на пэчы знуйдэ...

Нямецкі штаб знаходзіўся за Клекатовам, дзе пасяліліся Новыя Заечнікі пасля таго, як іх высялілі ад Буга, з прыгранічнай паласы. Гітлераўскія афіцэры размясціліся ў прасторнай хаце, абсталяваліся там выгодна, па-гаспадарску і адтуль кіравалі знішчэннем вёскі Слохі Аннапольскія ды пацыфікацыяй суседніх надбужных вёсак: **Клекатова,** абедзвюх **Турнаў — Вялікай і Малой, Анусіна, Шэршанёў, Баратынца Рускага і Машчоны Каралеўскай.**

Цяжка зараз устанавіць, якая была гэта часць 4-ай гітлераўскай арміі, што наступала на галоўным усходнім напрамку і паводле плана „Барбароса“ мела як мага хутчэй захапіць Мінск і пайсці далей на Маскву. Таму былі прыдзелены ёй асабліва магутныя групіроўкі бронетанкавых войск генерала Гудэр'яна. Толькі яе левае, паўночнае крыло абавязана было зараз за пагранічнай зонай павярнуць на паўночны ўсход, каб за Беластокам, недзе ў раёне Ваўкавыска, спалучыцца з часцямі 9-ай гітлераўскай арміі, якая ад Сувалкаў атакавала Гродна, каб супольна закупорыць Беластоцкі кацёл.

А тут на перашкодзе Слохі Аннапольскія, Анусін, Машчона Каралеўская з іх прыгранічнымі ўмацаваннямі. Засеўшыя ў дотах абаронцы радзімы трымаюць пад сваім агнявым кантролем галоўныя камунікацыі ў гэтым раёне: чыгунку, мост на Бугу і шасейныя дарогі ў Брэст і ў Беласток.

Ужо з першага дня вайны агрэсар пераканаўся ў гэтым. Паспрабаваў гітлераўскі маёр праскочыць гэтымі дарогамі ў Брэст з важнымі загадамі, і тут жа яго палітрук **Локцеў** прыхлопнуў з салдацкай вінтоўкі. Пазней немцы крычалі: *усе франты, моў, маёр геройскі прайшоў і на моры ваяваў, а тут яго, у Слохах...*

У Новых Заечніках стаяў тады штаб, як мяркуюць, **293 гітлераўскай пяхотнай дывізіі, камандаванне якой якраз і нясе поўную адказнасць за ўсе злачынствы нямецкіх салдат у Слохах Аннапольскіх і ў суседніх вёсках.**

Гэтак можна меркаваць на аснове даступных мне дакументаў, захаваных у архіве Міністэрства Абароны СССР і апублікаваных у кніжцы *„Буг в огне“*. Менавіта камандзір гэтай дывізіі якраз хваліцца, што ў лесе над рэчкай Камянкай, значыць, між Слохамі і Турнай, узялі яны ў палон і тут жа пасля допытаў расстралялі аднаго палітрука. Быў гэта той жа самы палітрук *Локцеў...*

Усё гэта здарылася, аднак, крыху пазней, а тым часам матацыкліст ледзь жывога Аляксандра Панасюка перадаў у рукі штабных афіцэраў, заявіўшы ім, што ў Слохах злавіў ён важнага рускага камуніста.

— Падбеглі да мяне два вартавыя, — расказвае дзядзька Аляксандр. — З абодвух бакоў прыціснулі пад рэбры вінтовачнымі кінжаламі і некуды пхаюць. Што ж зробіш? Іду...

Праз Крупіцы і Клекатова цячэ невялічкая рэчка *Шыся*. Завялі яго на рэчку. Першае, што тут ён убачыў, гэта была свежая яма, а пры яме, раскрыжаваўшы рукі і ногі, ляжала без руху двое мужчын...

*„Значыць, я... трэці...* — уздыхнуў Аляксандр Панасюк і перахрысціўся.

Аднак каму жыць... — як казала яго жонка. Але аб гэтым праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ПІСЬМО ЖАНЧЫНЫ

Пакуль мы знаходзімся ў экспедыцыі, я безупынна думаю аб табе, дарагі, сумую і пакутую без цябе. Гэта, вядома, не дзіўна — за час нашага знаёмства мы настолькі прывыклі адно да другога, мой любы, што многія кажуць, быццам мы з табою нават вонкава сталі падобнымі. Уяўляеш гэтую недарэчнасць, родны? Здавалася б, што між намі агульнага? У мяне класічны рымскі нос, а ў цябе на твары замест носа нейкая бульбачка. Мае густыя цёмныя валасы прыгожа рассыпаюцца па плячах, а твае рэдкія валаскі разгледзіш хіба толькі праз электронны мікраскоп. Мае велічэзныя сінія вочы з пушыстымі вейкамі чаруюць прахожых, а твае мышыныя вочкі хутчэй здольны іх да смерці напужаць. І ўсё ж многія ўпарта даказваюць, што ў нас многа агульных рысаў.

Гэта каханне робіць нас падобнымі, мілы.

**Аляксандр Хорт**



# Пагаворым аб жанчынах

Вось, гавораць і пішуць, што жанчынам цяжка стала. На іх, маўляў, і гаспадарка, і дзеці, і праца...

Гэта як паглядзець! Узяць, напрыклад, мяне. Раніцай устаю — усё сам: сам пасцель прыбяру, сам снеданне згатоўлю, сам з'ем. І на працу.

Між іншым, я на працы не вяжу, вачэй не падмазваю, аб шматках з супрацоўнікамі не гутару. У начальства ў магазін не адпрашваюся, і ў садзік з дзіцём таксама.

Пасля працы — калі ласка, у магазін. Усё паспяваю купіць, што трэба. І дадому. Не куды-небудзь, прыкмецце, а дадому.

Кватэру прыбяру, што трэба ў хаце — зраблю. Вячэру сам звару. Зарплату — да капейкі! І няма праблем! Так што ўвесь дом на мне. Усё сам. Але не скарджуся, як некаторыя.

А вось калі ажанюся, тады душу дык адвяду!

Яна ў мяне паскача!

**Аляксандр Сіроцін**



**Калі зморк ахутае зямлю, дык Светлячок лічыць сябе сонцам.**





*Без слоў.*

### НЕ ТОЛЬКІ МІНІМУМ

Размаўляюць дзве былыя аднакурсніцы:

— Я чула, што ты здала доктарскі мінімум?

— Не толькі здала мінімум, а і максімум узяла: стала жонкай прафесара.





### ПЕРАСТАРАЎСЯ

*Складаў паэт жанчынам оды, —*
*І нарабіў сабе ён шкоды.*
*Надрукаваць не ўспеў багата,*
*Як жонка вытурыла з хаты.*
*Цяпер ён, каб дабіцца міру,*
*Друкуе на жанчын сатыру...*

**Мікола Дзмітрыеў**

### ПА ЗВЫЧЦЫ

Пакупнік ужо з чвэрць гадзіны чакае ля прылаўка. А прадаўшчыца ў гэты час дзеліцца навінамі з сяброўкай у суседнім аддзеле.

— Прадавец! — усклікнуў кліент, які страціў цярпліў асць. — А сорам у вас ёсць?

— Няма і не скора будзе. — па звычцы адрэзала жанчына, не паварочваючы галаву.

### ПАДАЗРЭННІ

Дацэнт Скок доўгі час знаходзіўся ў камандзіроўцы з фотаапаратам. Калі ён вярнуўся, у першы вечар пайшоў у цёмную каморку і падрыхтаваўся праяўляць здымкі.

— Уяўляю, што гэта ў цябе за здымкі, калі ты праяўляеш іх у цемры, — крыкнула праз сцяну жонка.

### СМЕЛЫ

— У спрэчках з жонкай апошняе слова заўсёды застаецца за мной.

— І як гэта табе ўдаецца?

— Дык я ж думаю не ўголас.

### ПАЗАЙЗДРОСЦІЛА

Убачыўшы на галаве ў сваёй сяброўкі шапачку з выдры, модніца ўсклікнула:

— Ах, якая прыгожая шапачка! Дзе ты дастала яе, калі не сакрэт

— У шкурніка, — вельмі ціха адказала сяброўка.

### „ХВОРАЯ" ГАННА

— Ганна!

— Га!

— На лекцыю пойдзеш?

— Баліць нага.

— А вечарам на танцы?

— Ага!!!

З „Весніка Задрыпоніі"

### СКАРБ ЗНАХОДЗІЦЬ ГОДНЫХ

Аўдоцця Свірыд, абмацаўшы, як звычайна, падкладку пінжака свайго гарача каханага мужа, выявіла там незапрыходаваных 100 злотых. Згодна з існуючым заканадаўствам Аўдоцця выдала мужу належныя яму 25 працэнтаў знаходкі, а рэшту ўключыла ў даход сям'і.

### ПЫТАННЕ ГАПКІ

Аліменты — гэта доўг ці аванс?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## MÓJ POWRÓT

Słowa: Bogdan Olewicz
Muzyka: Jerzy Rybiński

Jest trzecia rano, może już czwartej pół,
a w dach bije jednostajny szum
i wycieraczki, jedna tam, druga tu,
w kółko tańczą taniec swój.

I abym zdążyć mógł na czas,
jesienny szpaler drzew
przy drodze trzyma straż.
Tak moje życie biegło mi,
naprzód wciąż,
z kąta w kąt,
nigdy nie patrzyłem w tył.
Pół świata gonię od trzech dni,
po latach znalazł mnie
twój bardzo krótki list.
I odtąd tylko jedno wiem:
Kocham cię,
niech się dzieje to, co chce.

Jest czwarta rano, może już piątej pół,
a w dach tłucze jednostajny szum
i wycieraczki, jedna tam, druga tu,
w kółko tańczą taniec swój.

Tak jakby tysiąc burych chmur
zatrzymać chciało mnie,
zrzucając smutek w dół.
A ja poznaję, jak przez mgłę,
dom i sień,
w której ja
wpadłem w oczu twoich czerń.
Lecz, kiedy stanę u twych drzwi,
słowa, jak szkolny wiersz,
wylecą z głowy mi.
Marzenia spalę w ogniu świec,
tłumiąc śmiech,
pustym chwilom każę biec.









### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Нам, жанчынам, столькі год, на колькі мы выглядаем.

— Ну што вы, мадам, я б столькі вам не даў.

✲

Бацька — дачцы:

— Мэры, чаму ты не запрасіла свайго жаніха, каб ён пазнаёміўся са мной?

— Я запрасіла яго, але ён сказаў, што бачыў цябе некалькі разоў і ўсё роўна мяне кахае.

✲

Дама прынесла фатографу партрэт свайго нябожчыка мужа.

— Вы можаце яго павялічыць?

— Вядома, мадам.

— А можаце прыняць капялюш?

— Безумоўна. Вы павінны толькі сказаць нам, якая ў яго была прычоска.

— Навошта? Вы самі ўбачыце, калі знімеце з яго капялюш.

— *Бедны тата, пасля кухні ў яго нават не хапіла сіл дабрацца да пасцелі...*



### СВАВОЛЬСТВА МАЛАДОЙ МАРЫІ

Марыя Складоўская-Кюры не заўсёды была сур'ёзнай. У маладосці любіла пасваволіць. Будучы на вёсцы, дзе было шмат моладзі, маладзенькая Марыя верхаводзіла ў розных свавольствах. З асаблівай заўзятасцю дакучала маладому чалавеку з прозвішчам Ян Манюшка. Пад яе правадырствам клалі яму ў ложак крапіву, маскіравалі пад працірадлам таз з вадою і г.д.

Аднойчы адправілі маладога чалавека ў горад за пакупкамі, а ў гэты час у столь яго пакоя набілі шмат цвікоў і на іх панавешвалі ўсю мэблю.

### ТЫ ДЫ Я

Аднойчы вядомая руская актрыса М. Г. Савіна іграла ў нейкай „бытавой" п'есе. Загрыміраваная і апранутая вясковай бабай, яна чакала за кулісамі свайго выхаду. Пажарнік, убачыўшы каля сябе бабу ў андараку, спытаў:

— Ты з якой губерні?

Савіна ўсміхнулася:

— Тульская.

І ў пажарніка на твары расплылася радасная ўсмешка:

— Мы землякі...

### ЗНАЙШЛІ ВЫЙСЦЕ

Адно амерыканскае выдавецтва знаходзілася на грані банкроцтва. Раман „За кулісамі", на які ўскладалі вялікія надзеі, залежваўся ў кніжных крамах. Тады нехта з супрацоўнікаў выдавецтва прапанаваў апублікаваць у газетах такую аб'яву: „Прыгожы, малады мільянер хоча пазнаёміцца і ажаніцца з дзяўчынай, якая ўсім напамінала б гераіню рамана „За кулісамі".

Праз дваццаць чатыры гадзіны тыраж няшчаснага рамана быў распрададзены.





**Мужчына ганяецца за жанчынай да тых пор, пакуль яна яго не зловіць.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020